наша свабода

№74(161) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 ЛІПЕНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Улада ведае і хлусіць

Где Захаренко?



Где Красовский?



Где Гончар?



Где Завадский?






Знікненні і забойствы былога міністра унутраных справаў Юрыя Захаранкі, першага віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага былі арганізаваныя асабіста кіраўнікамі беларускіх сілавых ведамстваў, сцвярджаюць дакументы, якія апынуліся цяпер у аднаго з патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзіміра Ганчарыка. Пра існаванне гэтых дакументаў мы паведамлялі ўжо ў мінулым нумары.

У мінулую пятніцу копіі дакументаў на 33 аркушах У.Ганчарык накіраваў на адрас Аляксандра Лукашэнкі. Патэнцыйны кандыдат вырашыў спачатку дачакацца рэакцыі свайго канкурэнта на сенсацыйныя паперы, таму не агалошваў іхняга зместу.

Але пабачыўшы, што ніякай рэакцыі няма, Уладзімір Ганчарык вырашыў абнародаваць тыя дакументы, што патрапілі да яго. Мы прапаноўваем Вашай увазе некалькі аркушоў з «дасье Ганчарыка». Гэтыя паперы гавораць самі за сябе.

**Министру внутренних дел Республики Беларусь генерал-майору милиции В.В.Наумову**

**РАПОРТ**

Докладываю о том, что мною получена информация следующего содержания: в апреле 1999 года Шейман В.В. дал указание зам.министру внутренних дел Сивакову Ю.Л. допустить в СИЗО № 1 ГУВД Мингорисполкома командира СОБРа Павлюченко во время исполнения процедуры расстрела приговоренного к этой мере наказания и последующим действиям по его захоронению. Сиваков Ю.Л. данное указание передал начальнику СИЗО № 1 Алкаеву О.Л. Павлюченко к процедуре был допущен.

6 мая 1999 года Шейман В.В. дал указание Сивакову Ю.Л. выдать пистолет, которым приводится в исполнение приговор о смертной казни, Павлюченко. Сиваков Ю.Л. дал указание Алкаеву О.Л. выдать хранящийся у него пистолет Павлюченко, что Алкаев и исполнил. В данное время Шейман В.В. дал указание Павлюченко физически уничтожить бывшего министра внутренних дел Захаренко Ю.Н. Информационное обеспечение местонахождения Захаренко для действий Павлюченко было обеспечено спецпод- разделением Васильченко Н.В., задание на которое ему также дал Шейман В.В. через своих сотрудников. Акцию захвата и последующего уничтожения Захаренко было произведено Павлюченко, командиром роты СОБРа, и командиром 1-й роты спецназа и четырьмя его бойцами. 8 мая 1999 года пистолет Павлюченко сдал Алкаеву. По аналогичной комбинации 16 сентября 1999 года Павлюченко провел акцию захвата и уничтожения Гончара В.И. и Красовского А.С. Место захоронения трупов Захаренко Ю.Н., Гончара В.И., Красовского А.С. спецучасток последних могил на Северном кладбище.

**Начальник ГУКМ МВД генерал-майор милиции Лопатик**

*Продолжение публикации на стр.4*

# Напад на «День»

*Учора ўначы быў абрабаваны офіс незалежнай газеты «День». Як паведаміў нам намеснік галоўнага рэдактара газеты Васіль Зданюк, невядомыя злачынцы знеслі з рэдакцыі сістэмныя блокі з «начыннем» трох камп'ютэраў, а таксама адзін стары манітор. Па стане на сённяшні дзень, праца рэдакцыі паралізаваная, і чарговы нумар газеты ў чацвер можа не выйсці.*

Па словах В.Зданюка, злачынства выкрылася ўчора зранку. Супрацоўніца газеты, прыйшоўшы на працу, пабачыла беспарадак у памяшканні. Калі стала відавочна, што офіс газеты наведалі рабаўнікі, журналісты выклікалі міліцыю.

«Трафеямі» рабаўнікоў сталася «начынне» трох камп'ютэраў – памяць і жорсткія дыскі, на якіх захоўвалася ўся інфармацыя. Апроч таго, яны забралі адзін стары манітор. Як паведаміў В.Зданюк, у выніку рэдакцыі няма на чым выпускаць новы нумар газеты – у іх застаўся толькі стары камп'ютэр, які выкарыстоўваўся выключна для набору тэкстаў, а таксама адзін ноўтбук, які чамусьці прыйшоўся не даспадобы невядомым рабаўнікам.

Дарэчы, гэтыя невядомыя напраўду паводзілі сябе вельмі дзіўна: у офісе рэдакцыі засталіся некранутымі прынтэры, сканеры, тэлефакс і нават гэты самы ноўтбук. Усю гэтую тэхніку можна было прадаць за большыя грошы, чым каштавалі сістэмныя блокі. Таму ў газеце не выключаюць, што напад меў палітычны характар. Васіль Зданюк нагадаў, што «День» быў адной з нямногіх газетаў, якая адважылася цалкам надрукаваць матэрыял пра дзяржаўныя «эскадроны смерці»; у «Дне» з'явілася сенсацыйнае інтэрв'ю з «прэзідэнцкім заўгасам» Іванам Ціцянковым, з-за якога ў газеты потым узніклі цяжкасці з друкарняй.

*Заканчэнне на стар.3*

# 26 июля — «цепь неравнодушных людей»

Объединённая гражданская партия обратилась с призывом к КРДС, всем демократическим силам Беларуси провести 26 июля, накануне принятия Декларации о государственном суверенитете, в формате кампании «Хотим знать правду» на проспекте Ф.Скорины — мероприятие «Цепь неравнодушных людей».

Как отметил председатель ОГП Анатолий Лебедько: «После того, как достоянием общественности стали факты и доказательства устранения политических оппонентов нынешним режимом, нет места равнодушию и иллюзиям. Если Лукашенко продлит свои полномочия ещё на пять лет, вопрос: «Кто следующий?» из стадии дискуссии перемещается в область политической реализации. Тема бесследно исчезнувших, умерших при невыясненных обстоятельствах, находящихся в тюрьме по политически мотивированным обвинениям, сегодня должна объединять всех, кто хочет знать правду, кто говорит «нет эскадронам смерти».



Фота Ул.ШЛАПАКА

В Испании фашиствующие молодчики убили молодого парня. На следующий день около миллиона испанцев стояло на улицах. Сколько же надо в Беларуси похитить, бросить в тюрьму, ликвидировать, чтобы миллион наших граждан вышел на улицу?

26 июля мы выйдем с портретами восьми человек. Уже восьми. Пока восьми...».

**Пресс-служба ОГП**

## Марш за свабоду Беларусі

Прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Нью-Йорку ўзялі ўдзел 15 ліпеня ў Маршы паняволеных народаў, прысвечаным барацьбе за свабоду Беларусі. Марш штогод праводзіць Камітэт паняволеных народаў, які быў арганізаваны паўстагоддзя таму ўсходнееўрапейскімі, у тым ліку беларускімі, эміграцыйнымі арганізацыямі. Сёлета марш прайшоў пад лозунгам «За свабоду і незалежнасць Беларусі».

## Наперадзе ўсіх... па інфляцыі

Сёлета ў Беларусі самыя высокія тэмпы інфляцыі сярод усіх краінаў СНД. Паводле статыстычных дадзеных Міжнароднага статыстычнага камітэта СНД, у перыяд са студзеня па травень інфляцыя ў Беларусі склала 19,9%. Далей ідзе Расія — 10,9%, потым Таджыкістан — 9,3%. Найменшыя паказчыкі росту спажывецкіх коштаў у СНД маюць Азербайджан — 0,8%, Грузія — 1,3% і Казахстан — 3,7%.

## Дзеля заробку прадаюць тэхніку

Як паведаміла Радыё «Рацыя», каб выплаціць заробак, на Брэсцкім электрамеханічным заводзе пачалі пазбаўляцца станкоў, кантэйнераў і іншай тэхнікі. Амаль усе атрыманыя заводам сродкі ідуць не на развіццё вытворчасці, а на выплату заробку. Гэткія захады прымаюцца, таму што адміністрацыя баіцца парушыць загад своечасовай выплаты заробнай платы.

## «Зубр» шукаў лыжніка

Днямі два актывісты руху «Зубр» у медхалатах шукалі ў цэнтры Мінска чалавека, які ездзіў 3 ліпеня ў сталіцы на лыжах. Пра яго пыталіся ў тых, хто адпачываў у Аляксандраўскім скверы. Яны паказвалі на рэзідэнцыю. Але туды хлопцаў не пусцілі: ахоўнік выклікаў нарад міліцыі, які і затрымаў хлопцаў.

## Курс гуманітарнага права

Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа разам з міністэрствам адукацыі распрацавалі спецыяльную праграму для выкладання міжнароднага гуманітарнага права ў сярэдніх навучальных установах краіны. Гэтая дысцыпліна можа з'явіцца ў школах, тэхнікумах ужо з 1 верасня.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1445**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Стране как воздух необходима смена экономического и политического курса

## *Обращение Михаила Чигиря к гражданам Республики Беларусь*

Дорогие соотечественники!

Рад сообщить вам, что необходимые для регистрации кандидатом в президенты подписи моей инициативной группой собраны. Знаю: вам потребовалось проявить гражданское мужество, чтобы выразить мне свои симпатии. Спасибо!

О собранных ста тысячах подписей избирателей сообщили также избирательные штабы В.Гончарика и С.Домаша. Однако Лукашенко может пойти на злоупотребление властью и лишить любого кандидата, в том числе и меня, права на участие в президентских выборах. Поэтому я призываю всех, кто поставил подписи в мою поддержку, сделать то же самое в отношении других альтернативных претендентов: П.Козловского, С.Калякина, М.Маринича, А.Ярошука, В.Терещенко, С.Антончика и др. Закон разрешает вам поставить свою подпись за каждого из них.

Нынешние выборы судьбоносны для белорусского народа. От их результата зависит, быть Беларуси свободным, богатым и счастливым государством или пойти по пути бесправия, диктатуры и нищеты. Лукашенко, как и семь лет назад, пытается обмануть избирателя, обещая золотые горы. Он снова напяливает на себя овечью шкуру, но мы хорошо знаем, кто под ней прячется. Дважды на одни грабли не наступим.

Ваша поддержка обеспечит избрание президентом одного из представителей демократического блока. Беларусь получит реальный шанс стать полноправным европейским государством. Закончатся страх и беззаконие внутри страны, насмешки и изоляция со стороны мирового сообщества. Возродится экономика. Повысится реальное благосостояние граждан.

Но вначале каждый должен осознать, что судьбу своей страны решает именно он. Докажем на выборах, кто на белорусской земле подлинный хозяин.

Давайте держаться вместе!

**Премьер-министр Беларуси в 1994-96 гг.
Михаил ЧИГИРЬ**

# Согласование единого кандидата

*16 июля на совместном заседании оргкомитета «За новую Беларусь» и КРДС утвержден следующий документ:*

**О согласовании процедуры выхода на единого кандидата и принципах устройства власти и управления.**

Будучи убежденными в том, что победить на предстоящих президентских выборах нынешнего авторитарного правителя Лукашенко, может только единый кандидат от широкой гражданской коалиции, заявляем о достижении принципиальной договоренности о нижеследующем:

**1.** О согласовании процедуры выхода на единого кандидата в президенты Республики Беларусь. Потенциальные претенденты в президенты Республики Беларусь В.Гончарик, С.Домаш, П.Козловский, С.Колякин, М.Чигирь в соответствии с предварительными договоренностями определяют единого кандидата в президенты до 19 июля 2001 года. В случае разногласий, окончательное решение о едином кандидате в президенты выносит предварительно согласованный с «пятеркой» состав коллегии выборщиков в составе 7 человек. Коллегия выборщиков не позднее 19 июля определяет единого кандидата от широкой гражданской коалиции квалифицированным большинством, а также определяет персональный рейтинг каждого члена «пятёрки». При наличии разногласий внутри «пятёрки» по составу коллегии избирателей, её состав утверждает широкая гражданская коалиция.

**2.** Основной причиной стагнации белорусского общества является политическая система, позволившая Лукашенко установить режим личной власти. Исходя из этого, в области государственного строительства мы берем на себя следующие обязательства:

— восстановить демократическую систему власти в стране, основанную на принципах разделения властей, верховенства закона и парламентаризма. Ограничить полномочия президента, восстановить функции парламента, расширить полномочия правительства и местных органов власти. Гарантировать независимость судебной власти и свободу СМИ;

— обеспечить избрание парламента и других представительных органов власти по смешанной пропорционально-мажоритарной системе, а формирование правительства парламентским большинством. Восстановить полный контроль парламента и местных Советов за бюджетами, другими государственными фондами и использованием государственного имущества;

— внести изменения в избирательное законодательство, гарантирующее формирование избирательных комиссий на плюралистической основе, невмешательство органов власти в их деятельность, неотвратимую уголовную ответственность за нарушение избирательного закона;

— взять курс на реформирование экономики на основе учета как положительного, так и негативного опыта других государств;

— осуществлять эффективную многовекторную внешнеполитическую деятельность. Исходный принцип внешней политики — мост между Востоком и Западом. Гарантировать безусловное соблюдение конституционных положений о суверенитете, независимости и стремлению к нейтралитету. Сохранять тесные, партнёрские отношения с Россией и другими странами СНГ. Стремиться к интегрированию в общеевропейское политическое, экономическое, гуманитарное пространство.

# Нарушения подтвердились

На стадии формирования территориальных комиссий по выборам Президента Республики Беларусь РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» выявил множество нарушений.

По фактам нарушений БХК обратился в прокуратуру с просьбой возбудить по данным фактам уголовные дела и привлечь виновных к ответственности; внести протесты на совместные решения исполкомов и Президиумов Советов депутатов по образованию соответствующих территориальных комиссий ввиду грубых нарушений законности. БХК обратился к председателю Центральной комиссии с просьбой принять исчерпывающие меры по обеспечению на всей территории Беларуси надлежащего контроля за исполнением законодательства о выборах, по указанным в сообщениях фактам провести проверки и принять меры к устранению выявленных нарушений.

В БХК начинают поступать результаты прокурорских проверок указанных фактов нарушения избирательного и уголовного законодательства. Так, проверка прокуратуры Оршанского района подтвердила неправомочность собрания трудового коллектива Высоковского ПТУ № 166 по выдвижению кандидата в члены территориальной избирательной комиссии. На собрании, которое вел представитель исполкома, присутствовала лишь одна треть состава трудового коллектива, не был избран президиум. По окончании собрания был составлен заведомо ложный протокол. По результатам проверки, проведенной по обращению БХК, прокурор Оршанского района направил протесты на совместное решение Президиума райсовета и райисполкома.

**Пресс-служба БХК**

## ДЗЕ ЗАВАДСКІ?



Дзмітрый Завадскі. Здымак школьных гадоў

# Международное сообщество за свободу депутатов

Верховный Совет Беларуси организует кампанию «Международное сообщество за свободу Андрея Климова и Валерия Щукина».

Фактически данная акция стартовала на следующий день, после того как Валерий Алексеевич оказался в тюрьме. Кампания включает в себя как сбор подписей политиков, парламентариев, деятелей культуры, партий, правозащитных организаций за освобождение политических узников Беларуси, так и информирование международного сообщества о ситуации с правами человека, так и проведение политических акций.

Под требованием освободить Андрея Климова и Валерия Щукина свои подписи уже поставили: руководители фракции либералов и консерваторов Парламентской Ассамблеи Совета Европы — Кристина Ойланд и Дэвид Аткинсон, бывший руководитель сейма Литвы В.Ландсбергис, сенаторы Конгресса США Кэмбал, Хагисон, Войнович, вице-спикер ПА ОБСЕ Стени Хойер. Руководители национальных делегаций Венгрии, Грузии, Польши, Словакии в Парламентской Ассамблее ОБСЕ. Всего 31 парламентарий из 16 государств.

**Пресс-служба ОГП**

# «Пяцёрка» просіць пачакаць яшчэ

17 ліпеня патэнцыйныя кандыдаты на прэзідэнта ад дэмакратычных сілаў Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі і Міхаіл Чыгір прынялі сумесны зварот што да пытання аб вызначэнні адзінага кандыдата. «Пяцёрка» заявіла, што яно будзе разгледжана паводле ўзгодненых крытэрыяў пасля здачы подпісаў на рэгістрацыю 21 ліпеня 2001 года.

Разам з тым пяцёра палітыкаў звярнуліся да палітычных партыяў і грамадскіх рухаў «устрымацца ад якіх заўгодна няўзгодненых з намі дзеянняў па вызначэнні адзінага кандыдата».

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Напад на «День»




*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Нумар, які паспеў выйсці ўчора, утрымліваў копіі дакументаў, якія сведчаць пра дачыненне кіраўніцтва Беларусі да знікнення Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага і Віктара Ганчара. Бліжэйшымі днямі рэдакцыя «Дня» таксама рыхтавала спецвыпуск, прысвечаны гэтым знікненням.

Намеснік галоўнага рэдактара паведаміў нам, што ў памяшканні былі адчыненыя вокны, каб стварыць уражанне, нібыта злачынцы патрапілі ў офіс гэтым шляхам. Але насамрэч металічныя дзверы былі адчыненыя звычайным ключом, сказаў В.Зданюк са спасылкай на міліцэйскіх экспертаў. Пры гэтым, рэдакцыя «Дня» месціцца ў офісным будынку, на другім паверсе, даволі высока ад зямлі, будынак вартуюць супрацоўнікі пазаведамаснай аховы, там існуе прапусковы рэжым, а вакол тэрыторыі будынка стаіць высокі плот, праз які практычна немагчыма перабрацца.

Усё гэта прыводзіць да думкі, што «рабаванне» не было выпадковым, а з'яўлялася мэтанакіраванай акцыяй, каб паралізаваць дзейнасць апазіцыйнай прэсы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

Памер стратаў выдання Васіль Зданюк ацэньвае прыкладна ў паўтары тысячы долараў, але, відавочна, тут не ўлічаныя тыя страты, якія панесла рэдакцыя ў выніку страты інфармацыі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Лукашенко интересуется, готов ли подарок к его Дню рождения

Александр Лукашенко в пятницу вечером самостоятельно сел за руль автомобиля и, никого заранее не предупреждая, проехал по Минску и посетил два строящихся объекта. Как сообщили «Интерфаксу» в его администрации, А.Лукашенко ознакомился с ходом строительства новой станции метро «Могилевская» и автомобильной развязки на минской кольцевой дороге.

Там он беседовал с рабочими, интересовался соблюдением графика строительных работ. Дело в том, что станция должна быть сдана в эксплуатацию 30 августа — в день, когда А.Лукашенко исполнится 47 лет.

В администрации отметили, что данная поездка проходила за рамками рабочего графика. А.Лукашенко самостоятельно определил маршрут и время своей поездки. Никаких подготовительных мероприятий со стороны президентского аппарата и его службы безопасности не проводилось.

Между тем вокруг станции «Могилевская» на юго-восточной окраине Минска возник скандал. Ранее белорусский премьер-министр Владимир Ермошин заявил, что ее нужно переименовать, поскольку улица Могилевская находится в центре столицы, и возникнет такая же путаница, как со станцией метро «Московская» и одноименной улицей, которые расположены в разных концах города.

По сведениям агентства «Интерфакс», А.Лукашенко подверг заявление В.Ермошина резкой критике и настоял на том, чтобы новая станция была «Могилевской». В Минске это первая станция метро, названная в честь центра одной из 6 областей Беларуси. Именно из Могилевской области происходит сам А.Лукашенко и большинство руководителей страны.

**Агентство «Ю.С. Ньюс»
www.yusnews.com**

# Матывы пераезду Шарэцкага

Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі тлумачыць свае пярэбары на мінулым тыдні з Вільні, дзе перабываў на эміграцыі з лета 1999 года, у амерыканскі Кліўленд у тым ліку змяненнем палітычных акалічнасцяў. У прыватнасці, тым, што ў літоўскім урадзе прыйшлі левыя сілы.

Немалаважным фактарам у сэнсе спрыяння палітычнай дзейнасці С.Шарэцкага (а палітыку ён пакідаць не збіраецца) стала тая пазіцыя, якую займаюць ЗША ў дачыненні да рэжыму Лукашэнкі. Да ўсяго тут самая актыўная за мяжой беларуская дыяспара.

Бліжэйшым часам спікер Вярхоўнага Савета мае сустрэцца з прадстаўнікамі ўладаў свайго новага месца жыхарства, пасля чаго стане пэўным статус, у якім Шарэцкі будзе знаходзіцца ў ЗША.

**Алесь КАТОВІЧ**

## НАЗІРАЛЬНІК

Беларускае заканадаўства дае права кожнаму грамадзяніну краіны ажыццяўляць назіранне за ходам выбараў.

Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» аб'ядноўвае людзей, якія будуць працаваць дзеля забеспячэння адкрытасці і справядлівасці выбараў.

Далучайцеся:
г.Мінск тэл. (017) 213-43-52
Брэсцкая вобласць:
тэл. (0162) 26-65-69
Віцебская вобласць:
тэл. (0212) 37-36-09
Гомельская вобласць:
тэл. (0232) 55-93-71, (02342) 4-58-91
Гродзенская вобласць:
тэл. (0152) 39-93-87
Магілёўская вобласць:
тэл (0222) 25-84- 00
Мінская вобласць:
(017) 221-60-55, 258-78-14

# Улада ведае і хлусіць

ПРОТОКОЛ
допроса свидетеля

24 ноября 2000 г. г. Минск
Допрос начат в 10 час. 05 мин. окончен в 12 час. 35 мин.
с перерывом
Следователь Заместитель начальника отдела Прокуратуры РБ советник юстиции Казаков Е.Г.
с участием (в присутствии)
в помещении МВД РБ
с соблюдением требований ст.ст. 157, 158, 160, УПК РБ допросил в качестве свидетеля:
Фамилия, имя, отчество: Алкаев Олег Леонидович
Число, месяц, год рождения: 11.12.52
Гражданство: гражданин РБ
Язык, на котором желает давать показания на русском языке
Место рождения: г. Ленинск-Кузнецк Кемеровской области
Образование: средне-специальное и высшее
Семейное положение: женат
Место работы, должность или род занятий: Начальник Следственного изолятора №1 КИН МВД звание полковник внутренней службы

ПРОТОКОЛ ВЫЕМКИ

г. Минск «24» ноября 2000 г.
Следователь зам. начальника отдела Прокуратуры РБ советник юстиции Казаков Е.Г.
С участием понятых 1. Наумова Г.В., прож. г. Минск, ул. Городецкая, 58-417
2. Жкред Г.С., прож. г. Минск, ул. П. Глебки, д. 114-кв. 70
и в присутствии Начальника СИЗО №1 полковника внутренней службы Алкаева О.Л.
в соответствии со статьями 168-170 УПК РБ произвел выемку пистолета ПБ-9 с глушителем № Р057С и книги № 1538 выдачи и приема оружия и боеприпасов личному составу СИЗО №1 УВД Минoблисполкома
Лицам, присутствующим при производстве выемки, разъяснены их обязанности и права, предусмотренные статьями 132 и 168 УПК РБ.
Перед началом выемки следователем было предъявлено постановление об этом от «24» ноября 2000 г., после чего начальнику СИЗО №1 полковнику Алкаеву О.Л. предложено выдать пистолет ПБ-9 с глушителем № Р057С и книгу № 1538 выдачи и приема оружия и боеприпасов личному составу СИЗО №1
При производстве выемки изъяты: пистолет ПБ-9 №Р057С с глушителем в кобуре коричневого цвета с запасной обоймой и пружиной, а также Книга № 1538 ... личному составу СИЗО № 1 УВД

*Окончание.
Начало на стр.1*

**Министру Внутренних дел Республики Беларусь генерал-майору милиции Наумову**

**РАПОРТ**

Докладываю, что, являясь руководителем «специальной группы по приведению в исполнение смертных приговоров», познакомился с командиром «СОБР» Павлюченко Дмитрием при следующих обстоятельствах:

В конце октября 1999г., а точнее 22.10, по приказу (устному) бывшего министра МВД Сивакова, переданному через начальника КИН МВД Кадушко(?) С.А. мною был допущен к присутствию при исполнении приговоров командир «СОБР» Дмитрий Павлюченко. Цель его присутствия мне непонятна и неизвестна. Мне о ней никто ничего не говорил.

В этот день было расстреляно пять человек. Павлюченко присутствовал при расстреле каждого. В один из моментов он спросил моего исполнителя, почему он стреляет в голову, а не в сердце, заявив при этом, что выстрел в сердце более гуманнее и при этом вытекает меньше крови. На исполнителя это произвело некоторое впечатление, так как такие слова мог сказать только человек на практике знающий характер ранений в различные области тела. По окончанию всей процедуры Павлюченко ушел, и при захоронении трупов не присутствовал.

Повторно, уже в декабре, Павлюченко лично приезжал и интересовался, когда будет следующее исполнение приговора. Я ему объяснил, что я лично не уполномочен решить вопрос о его присутствии и отказал ему в этом. Больше мы с ним не встречались.

Кроме того, хочу пояснить, что дважды, по распоряжению министра Сивакова Ю.Л., у меня для неизвестных целей был истребован специальный пистолет с глушителем, которым приводится в исполнение приговор. Первый раз 30.04 и возвращен 14.05. Второй раз 16.09 и возвращен 18.09.99 г. Первый раз, по письменному указанию зам.министра Чванкина А.А. пистолет получил полковник милиции Дик В.И. и возвратил также он.

Второй раз пистолет получил лично адъютант министра по имени Владимир Павлович.

О получении ими оружия имеется отметка в журнале учета выдачи оружия.

**Начальник СИЗО – полковник вн.службы Алкаев**

## Протокол допроса свидетеля

**Следователь, заместитель начальника отдела Прокуратуры РБ советник юстиции Казаков Е.Г.**

**Алкаев Олег Леонидович, 11.12.52 года рождения, начальник Следственного изолятора № 1 КИН МВД, звание полковник внутренней службы.**

Свидетель:

В указанной должности я состою с 6 ноября 1996 г. До меня эту должность занимал полковник внутренней службы Баковец Г.П., в настоящее время он начальник ИТК № 14. В круг моих обязанностей входит обеспечение оперативно-следственного процесса и содержание заключенных в соответствии с требованиями режима. В соответствии с Инструкцией МВД РБ, утвержденной в 1992 г., я являюсь руководителем Специальной группы по приведению в исполнение смертных приговоров путем расстрела лиц, в отношении которых приговор вступил в законную силу и имеется Указ Президента РБ об отказе, либо неприменении помилования. Расстрел производится непублично в одном из специально оборудованных помещений, месторасположение которого известно только членам специальной группы: прокурору, осуществляющему надзор за законностью исполнения приговора, а также по должности высшим должностным лицам МВД. Это министру, первому заместителю министра и начальнику КИН МВД и начальнику ГУВД Мингорисполкома. После поступления Указа Президента РБ об отказе, либо неприменении помилования в отношении конкретного лица через Верховный Суд РБ и ГУВД Мингорисполкома я в течение месяца в соответствии с Инструкцией обязан привести в исполнение смертный приговор, о нем известить должен письменно об исполнении приговора суд, кроме того составляются учетные и отчетные документы, предусмотренные Инструкцией – в виде акта об установлении личности осужденного, акта о приведении в исполнение приговора и акта о захоронении трупа. Указанные документы передаются вместе с личным делом осужденного через ИЦ МВД РБ на хранение. Учитывая, что род деятельности специальной группы настолько специфичен, что всякая расшифровка перед кем-либо членов этой группы травмирует их психику и вызывает протест у участников группы, как правило, какие-либо посторонние лица, за исключением высших должностных лиц МВД РБ, они иногда присутствовали, при приведении приговоров в исполнение, не присутствуют. В мою бытность приведено в исполнение свыше 130 смертных приговоров с 1996 г. Из высших должностных лиц присутствовали: Удовиков М. Д., первый зам. министра – дважды присутствовал начальник КИН МВД РБ Кадушкин С. А., он присутствовал два или три раза сейчас не помню. Эти люди находились там не из праздного любопытства, а в целях улучшения организации деятельности и материального обеспечения группы. Кроме указанных лиц, кроме членов группы, в мою бытность при приведении в исполнение приговоров не участвовал. Это не только в отношении тех лиц, что я указал, но и вообще каких-либо иных посторонних лиц. Где-то в середине октября 1999 г. Кадушкин С. А. в моем кабинете познакомил меня с командиром СОБРа Павлюченко Дмитрием и сказал, что министр МВД Сиваков Ю. Л. требует участия или присутствия этого человека при приведении в исполнение смертных приговоров. При этом Кадушкин сказал, что как он ни убеждал министра не делать этого, министр категорически настаивал на своем. Подчиняясь указанию министра, переданному мне через Кадушкина, 22 октября 1999 г. в день, назначенный для приведения в исполнение смертного приговора для, вернее в отношении пяти осужденных, мною был поставлен в известность Павлюченко Д., который в условленное время прибыл ко мне в кабинет и вместе со мной присутствовал при расстреле пяти человек, причем находился непосредственно в помещении, где приводят в исполнение приговоры вместе с исполнителями. Из гуманных соображений в целях уменьшения страданий осужденных расстрел производится путем выстрела в затылок из пистолета с глушителем. Павлюченко, присутствуя при расстреле, поинтересовался у исполнителя – почему он не стреляет в сердце? По его мнению, это гораздо эффективнее и не оставляет много крови. Со слов исполнителя, человека опытного, такое заявление мог сделать только человек, который применял вышесказанное на практике. Захоронение трупов мы должны были произвести на следующий день. В условленное время, в условленном месте были собраны члены группы. Павлюченко об этом знал, но к месту сбора группы не пришел. Я его разыскивать и дожидаться не стал. В захоронении он не участвовал, он интересовался в предыдущем разговоре о месте захоронения. Я ему сказал, что это делается на кладбище, но конкретного места не указывал. Перед Новым годом 2000 г. Павлюченко уже в должности командира бригады вновь приезжал ко мне и интересовался о дате следующего расстрела, а также просил пригласить его. Я ему объяснил, что я лично не уполномочен решать вопрос о его присутствии, и отказал ему в этом. Больше я с ним не встречался. Пистолет для приведения в исполнение смертных приговоров находится или хранится в сейфе у начальника Учреждения СИЗО № 1 и в день исполнения приговоров выдается исполнителю. Доступ к этому пистолету имею я и мой заместитель Саевич Н. М., а также прапорщик Шакаль В. И. Другие лица к этому оружию доступа не имеют. Если оружие выдается, то его выдача фиксируется в книге выдачи и приема оружия по СИЗО № 1. В этом журнале учитывается выдача и другого – любого оружия, выдаваемого в СИЗО № 1. Этот пистолет дважды выдавался, по личному указанию министра Сивакова Ю. при следующих обстоятельствах лицам, не имеющим отношения к членам специальной группы. Первый раз – 30 апреля 1999 г. пистолет был получен полковником милиции Дик В.Н. по письменному указанию зам.министра Чванкина А. А., якобы для проведения учебно-тренировочных стрельб. Это указание в письменном виде Дик показал мне, но не оставил. Пистолет возвращен 14 мая 1999 г. Следующий раз пистолет был получен 16 сентября 1999 г. адъютантом министра Сивакова Ю. Л. Мне позвонил Кадушкин, передал устное указание министра о выдаче этого оружия адъютанту Колеснику В.П. Возвращен был пистолет 18 сентября 199 г. Соответствующие записи о выдаче оружия имеются в книге. Первый раз со слов оружейника прапорщика Шакаля В. И. пистолет был возвращен нечищенным в заржавленном состоянии. Второй раз пистолет был возвращен в обычном состоянии. Стреляли ли с него или нет, я сказать не могу. В остальных случаях пистолет использовался только по назначению. Чистку этого пистолета производит Шакаль. Первый раз забирал пистолет у Дика Шакаль в здании МВД РБ, а Дик тогда ходил к Чванкину и забрал его у Чванкина. А второй раз адъютант министра лично у меня брал пистолет и лично принес мне. Больше добавить к сказанному мне нечего.

Вопрос: В каком месте и где конкретно приводились в исполнение смертные приговоры?

Ответ: В настоящее время я не могу вам об этом сказать, поскольку меня не уполномочили на это.

Вопрос: Назовите, кто конкретно входит в состав группы по приведению в исполнение смертных приговоров?

Ответ: Я конкретно их назвать не могу, могу только назвать должностных лиц. Это прокурор, врач, я и двенадцать членов группы. Персональный состав я не могу назвать, эти двенадцать человек мои подчиненные, обязанности регулируются инструкцией.

Вопрос: Где производились захоронения осужденных, в отношении которых были приведены в исполнение смертные приговоры?

Ответ: Захоронения производятся на кладбищах. На каких конкретно сказать не могу.

Вопрос: Сколько раз и какое количество человек было захоронено в 1999-2000 гг.?

Ответ: За 1999 г. было расстреляно 45 чел., а в текущем году свыше 10 чел., три партии не менее пяти человек.

Вопрос: Издаются ли какие-либо приказы для группы по приведению исполнения смертных приговоров?

Ответ: Такие приказы не издаются и в издании их нет необходимости, поскольку все предусмотрено. Инструкцией. Эта Инструкция издана в единственном экземпляре, утверждена она Генеральным прокурором и Мин. внутренних дел, и хранится у меня. Эта Инструкция временная с 1992, дату более точно сейчас припомнить не могу.

Вопрос: Какой установлен порядок учета в СИЗО № 1 в отношении лиц указанной категории?

Ответ: В отношении документов по учету таких лиц остается в СИЗО документ с Верховного Суда РБ, в котором излагается номер указа президента и его решение по конкретному лицу, а также указание о приведении в исполнение приговора; В ИЦ ГУВД Мингорисполкома направляются следующие документы: личное дело казненного, к которому прилагают подлинник Указа Президента РБ и три акта – об установлении личности, о приведении в исполнение приговора и об захоронении. У меня Журнал учета регистрации указаний ВС РБ о выдаче осужденных для исполнения приговоров, а также дело с подшивкой самих указаний. Это совершенно секретная документация.


Фота IREX/ProMedia

